Весткі й Паведамленьні
інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"
Viestki j Paviedamlenņi
Сусьветнае сеціва: e-krama.com, pahonia.com
Электронны адрас: viestki@mail.com
P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735
№ 7 (617)
Ліпень 2017 г.

# Летняя ночка купальная


Здымак В. Руднёва

Для чаго з году ў год мы ладзім нашыя Купальлі, навошта менавіта мне гэта патрэбна? – пытаюць часам мяне. Адказваючы, я прыгадваю Міхаіла Мураўёва, якога ў народзе празвалі Вешальнікам, і які кіраваў падаўленьнем антырасейскага паўстаньня 1863 года. Па ягонаму загаду павесілі тысячы змагароў за волю нашага народу, у тым ліку й Кастуся Каліноўскага. Меў ён гэткае перакананьне й паводле яго жыў і дзейнічаў: "В Северо-Западном крае так называемый белоруский язык необходимо свести на нет. Если этого не сделать, он постоянно будет инспирировать мысль об отдельном белорусском народе и праве этого народа на этническую самостоятельность и национально-государственную суверенность, чего допустить нельзя".

Як казаў той жа Мураўёў-Вешальнік: "Калі беларускія хлопцы пачнуць сьпяваць расейскія песьні, то яны забудуцца пра сваю нацыянальную годнасьць, ім стане ўсё роўна, хто яны й адкуль, нам не давядзецца ўжо змагайцца зь імі, тады мы возьмем іхны край ды іх самых голымі рукам".

А ў Беларусі па сёньняшні дзень праводзіцца палітыка зьнішчэньня мовы, культуры і традыцыяў нашага народу, а разам з тым у яго адымаецца й самая памяць аб самых сабе. Вельмі крыўдна, што гэтая палітыка так пасьпяхова рэе над нашай краінай, асымілюе наш народ і, што самае жахлівае, нашую моладзь. Вось менавіта таму мы й намагаемся праводзіць нашыя традыцыйныя народныя сьвяты, якія базуюцца на беларускім фальклёры.

Каб спыніць гэты наступ на нацыянальную сьвядомасьць беларусаў і абудзіць моладзь, мне бачыцца адзіны спосаб зацікаўленьня ўласнай мовай і культурай праз пашырэньне правядзеньня традыцыйных фальклёрных абрадаў і сьвятаў. Моладзь добраахвотна бярэ ў іх удзел і, сьпяваючы свае нацыянальныя песьні, пачынае адчуваць, што мы маем сваю адметную мову й культуру. Правесьці на расейскай мове пікнічок на прыродзе можна, а вось купальскі абрад – не атрымаецца, бо ён грунтуецца на беларускіх песьнях.

Паводле этымалёгіі назвы Беларусь, праўдзівасьць якой адстойвалі яшчэ В. Тацішчаў, А. Кіркор, Я. Карскі, зямля беларусаў атрымала сваю назву ад белага колеру адзеньня і антрапалягічнага тыпу яе жыхароў. Магчыма, гэта так і было. Такім чынам Беларусь – гэта "белая краіна" або "зямля ў белых строях". У перакладзе на лацінскую мову назва гучыць TERRA ALBA. Але слова "alba" азначае таксама і "пярліна", і "сьвяты". Такім чынам гэта "зямля-пярліна", "зямля сьвятая". Недасягальны чалавечаму разуменьню промысел Божы, і неспавядальныя шляхі Гасподнія. Як выказаў гэта ў свой час Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч:

*Божа наш, Ты шыбнуў на зямлю чалавека,*
*І няшчасьця бярэма і шчасьця ад веку*
*Ты прызначыў яму выганяючы з раю, –*
*Як жа ў смутак душы яго любасьць да краю*
*Ты ўліў?*

Адзінаю згадкаю для чалавека пра ягоную страчаную калісьці "нябёсную Радзіму" зьяўляецца Радзіма зямная, дзе ён нарадзіўся, дзе пачуў першае матчынае слова, дзе пахаваныя ягоныя продкі й народзяцца ягоныя дзеці.

Калі мы праводзім нашыя нацыянальныя абрадавыя сьвяты, тым самым мы працягваем справу Кастуся Каліноўскага й усіх тых змагароў, якія аддалі свае жыцьці за волю нашае краіны й нашага народу. Таму начамі пасьля працы я вышываю й рыхтую беларускія строі, вучу песьні, каб тую моладзь, што прыйдзе да нас упершыню, апрануць у белыя строі, каб ня сталі чужынцамі для сваёй зямлі й свайго народу.

Цыклічна замкнутае жыцьцё старажытных людзей было запоўнена шматлікімі рытуаламі. Згодна лёгіцы міталягічнай сьвядомасьці, уяўныя акты стварэньня Космасу неабходна было пэрыядычна паўтараць у час важнейшых сьвятаў, зьвязаных з кругазваротам прыродных цыкляў ці з такімі галоўнымі падзеямі жыцьця чалавека, як нараджэньне, пахаваньне і г. д. Узорамі для рытуальных дзеяньняў лічыліся ўчынкі багоў, герояў ці першапродкаў.

У міталягічных уяўленьнях продкаў беларусаў шэраг пэрсанажаў быў адказныя за нараджэньне. Адным з найархаічнейшых такіх пэрсанажаў была Мара. Такім імём называлі яшчэ да ўзьнікненьня пантэону архаічную Вялікую багіню, апякунку як нараджэньня, так і сьмерці. Суаднесеннасьць Мары з вадою і вільгацьцю, а значыць з каханьнем і жыцьцём, спры-

заканчэньне на бачыне 3

617.qxd 6/30/2017 10:57 PM Page 3 (1,1)



# Чэрвеньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 10 чэрвеня, у Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў чэрвеньскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Сход адкрыў старшыня Згуртаваньня сп. Віталь Зайка. Ён адразу прадставіў выступоўца, славутага грамадзкага дзеяча і навукоўца, гісторыка беларускай грамады ў Амэрыцы сп. Вітаўта Кіпеля.

Напачатку гутаркі выступоўца распавёў пра сябе, пра сваіх бацькоў і Менск, горад у якім ён нарадзіўся ў 1927 годзе. Ён затым узгадаў дзяцінства ў Налінску, куды ягонага бацьку выслалі як “нацдэма”, і ў Арле. Бацьку перасьледвалі Саветы па сфабрыкаваный справе “Саюзу вызваленьня Беларусі”. Перш выслалі, а затым арыштавалі і асудзілі на 5 год зьняволеньня. Затым была вайна, вяртаньне ў Менск, і потым эміграцыя.

Вітаўт скончыў Беларускую гімназію імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу, браў удзел у беларускім скаўцкім руху. Затым паступіў у Лювэнскі ўнівэрсытэт у Бэльгіі на геалягічны факультэт. Пасьля сканчэньня яго меўся ехаць у Конга або Марока, але акурат зьявілася магчымасьць пераехаць у Амэрыку, і ў 1955 годзе ён прыехаў у ЗША.

Пасьля пераезду ён ажаніўся зь сяброўкай па гімназіі й унівэрсытэце Зорай Савёнак. Увесь час сп. Кіпель браў удзел у беларускай грамадзкай дзейнасьці, перш у Саюзе Беларусаў Бэльгіі, пасьля ў шэрагу беларускіх арганізацыяў у Амэрыцы, у тым ліку ў Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньні (БАЗА). Таксама далучыўся да палітычнай амэрыканскай дзейнасьці, быў старшынём Фэдэрацыі Беларускіх Рэспубліканскіх Клюбаў. Пасьля прыезду ў Амэрыку быў пэрыяд адаптацыі, “хвалісты” час. Праз нейкі час сп. Кіпель стаў думаць пра зьмену спэцыяльнасьці, каб займацца тым, што здавалася важным для Беларусі, і цалкам пералучыўся на гуманітарную ніву. Ён скончыў факультэт інфарматыкі й бібліятэказнаўства пры Ратгерскім унівэрсытэце і потым стаў працаваць у Славянскім і Балтыйскім аддзеле Нью-Ёрскай Публічнай Бібліятэкі. У гэты час заняўся прафэсійным досьледам у галіне беларускай бібліяграфіі, і таксама працягваў пошукі матэрыялаў па гісторыі беларускай іміграцыі ў Злучаныя Штаты. Зь ягонай дапамогай значна пашырыўся фонд беларускіх выданьняў Бібліятэкі.

З 1982 года сп. Кіпель стаў кіраўніком Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва (БІНіМ), у якім актыўна працаваў і раней. БІНіМ дасюль вядзе навуковую і выдавецкую дзейнасьць, друкуе манаграфіі й пэрыёдык “Запісы БІНіМ”.

У 1993 годзе ў Менску ў пракладзе Сяргея Шупы з ангельскай мовы выйшла кніга Вітаўта Кіпеля “Беларусы ў ЗША”. Кніга адразу набыла розгалас і папулярнасьць. У 1999 годзе яна выйшла па-ангельску, і вось цяпер зьявілася другое, пашыранае і дапоўненае, выданьне, якое ўлучае таксама пэрыяд пасьля 1993 года і да цяперашняга дня.

Затым сп. Вітаўт Кіпель спыніўся на сваёй кнізе і на асноўных пэрыядах эміграцыі беларусаў у ЗША, падкрэсьліўшы, што беларусы пачалі сяліцца ў Амэрыцы яшчэ ў каляніяльныя часы. Затым былі славуты чын Т. Касьцюшкі, удзел у змаганьні за незалежнасьць ЗША, праца беларускіх ксяндзоў-езуітаў па разьвіцьці сыстэмы адукацыі, стварэньні Джорджтаўнскага ўнівэрсытэту. Зь сярэдзіны 19 ст. пачынаецца масавая іміграцыя ў ЗША гэбраяў зь Беларусі, а пачынаючы з апошняга дзесяцігодзьдзя 19 ст., таксама і масавая іміграцыя этнічных беларусаў. У канцы 19-га – пачатку 20 ст. прыехаўшых пераважна рэгістравалі па краіне паходжаньня або па рэлігійнай прыналежнасьці. Таму раньняя беларуская эміграцыя называлася “расейская”, хоць этнічных расейцаў у ёй было вельмі мала, пераважалі гэбраі, беларусы і ўкраінцы. Пэўная колькасьць беларусаў эмігравала потым з Заходняй Беларусі, і яны мелі ўжо больш акрэсьленую нацыянальную прыналежнасьць. Калі пачалася другая хваля іміграцыі, і людзі сталі ўтвараць свае нацыянальтныя арганізацыі, цэрквы ды іншыя ўстановы, тады беларуская прыналежнасьць перастала выклікаць сумневы ды спрэчкі, як гэта бывала сярод ранейшых імігрантаў. Прамоўца таксама закранаў лічбы беларусаў у Амэрыцы. У нашыя часы беларуская іміграцыя працягваецца, і беларуская прысутнасьць у Амэрыцы пашыраецца. “Далейшая будучыня беларускай іміграцыі – у руках цяперашняй моладзі, у вашых руках”.



Др. Вітаўт Кіпель

Сп. Кіпель адказаў на пытаньні прысутных і, між іншага, адзначыў, што пачалі паступаць новыя матэрыялы, што могуць быць скарыстаныя для 3-га выданьня кнігі “Беларусы ў ЗША”.

Затым старшыня “Пагоні” сп. Віталь Зайка ад імя прысутных павіншаваў сп. Кіпеля з 90-мі ўгодкамі й пажадаў здароўя, сілаў і дачакацца выхаду 3-га выданьня кнігі. Юбіляру адсьпявалі “100 год” і прэзэнтавалі вялікі торт.

Затым прысутныя мелі нагоду выпіць за здароўе юбіляра і пагутарыць зь ім. Таксама прагучэлі абвесткі, асноўная зь якіх – пра надыходзячае 24-25 чэрвеня сьвяткаваньне Купальля.



**Віталь ЗАЙКА**

617.qxd 6/30/2017 10:57 PM Page 3 (3,1)



## Летняя ночка купальная

*заканчэньне з бачыны 1*

чынілася да таго, што з гэтым імём зьвязанае індаэўрапейская назва "мора", а "мор" – гэта балота, хвароба, злы дух, сьмерць. У касьмічным пляне Мара зьвязаная са штогадовымі цыклямі паміраньня й ўваскрашэньня прыроды.

З募Мараю зьвязаная Мар'я купальскіх песьняў, яна ж Купала. У некаторых легендах яна то сястра, то жонка Пяруна-Ярылы-Юр'і, зьвязанага з жыцьцём і агнём, як і імя Ільля або Йван. Тут відавочна прасочваецца матывы інцэсту Мары на Купальле са сваім братам (напэўна Вялікім богам Грымотнікам-Перуном). Таму шмат купальскіх песень пра кветку Іван-ды-Мар'я:

*Іван, Іван да Мар'я,*
*Вох-і, лю-лі, ды Мар'я,*
*А на гарэ Купальля,*
*Вох-і. Лю-лі, Купальля...*

У адных мясцовасьцях пудзіла лялькі Марэны або Купалы спальвалі, у другіх – тапілі, бо яна ўспрымалася як сымболь зла.


Купаліш і Купалінка Здымак В. Руднёва

Вада выступае ў ролі жаночага пачатку, як аналяг мацярынскага ўлоньня і чэрава, а таксама апладнёнага сусьветнага яйка. Шырока распаўсюджаным індаэўрапейскім матывам зьяўляецца ўяўленьне пра шлюбны саюз неба, як мужчынскага пачатку, з вадою ці зямлёю.

У ідэале традыцыйна Купальле праводзіцца ноччу з 20 на 21 чэрвеня, калі самая кароткая ноч і, адпаведна, самы доўгі дзень. Але ўсе мы зьвязаныя вучобаю і працаю, таму прымяркоўваем яго да бліжэйшых выходных дзён. Так было і сёлета 24 чэрвеня. Абмежаваньня прымаць удзел у абрадзе па ўзросьце не існуе, проста кожны выконвае сваю функцыю. Спачатку прагучэла зазыўная песьня:

*Добры вечар,*
*Добрым людзям,*
*Клічам мы вас на Купальле...*

Мы абралі Купаліша – Анатоля Цяценькіна, потым ён сам абраў сабе Купалінку – Кацярыну Пратт. Пры апошніх сонечных промнях, яны ўдвох распалілі паходняй купальскае вогнішча. І разьліліся песьні, закружыліся карагоды: "Пойдзем, дзеўкі, кругом жыта", "Чырвоная ружа", "У Кузьмы на дварочку", "А на гарэ купарос рос", "Перад Пятром пятым днём разгуляўся Йванаў конь" ды іншыя.

У гэты раз купальшчыкаў сабралася больш за сотню. Нам катастрафічна не хапала тае купальскае паляны, таму мусілі карагоды замяніць на крывыя танкі. Самае прыемнае, што ўсе былі ўдзельнікамі, сьпявалі й танчылі, акрамя невялічкай колькасьці, хто завітаў да нас невядома для чаго й ўзіраўся з кустоўя.

Пад час гульні ў "Падушачку", хлопец ў строі нячысьціка скраў Купалінку. Але Князь-Купаліш хутка знайшоў яе. Пакуль яна старалася па-беларуску павіншаваць ўсіх са сьвятам, частка купальшчыкаў нырнула ў кусты на іншыя пагоркі, мабыць, шукаць папараць-кветку. А самыя стойкія спалілі ляльку Марэну, як сымболь зла й працягвалі гульні ў "Цяцерку", "Баяроў" ды іншыя. Потым пачаліся ачышчальныя скокі праз даволі яшчэ высокае вогнішча. Хлопцы й дзяўчаты адчайна пераляталі празь яго. Найбольш у гэтай справе вылучыўся Алесь Тур. Яго так і празвалі Лятучы Алесь або Лятучы Тур.

А тым часам мы выправіліся ачышчацца вадою возера. У лясной цемры мы скінулі ўсю вопратку й такімі, якія ёсьць, акунуліся ў прыціхшае, бы соннае, возера. Вада пяшчотна агарнула прахалодаю нашыя разгарачонныя вогнішчам целы. Зь неба на нас узіраліся вялічэзныя зоры, якія, здавалася, наблізіліся да вады, каб, як і мы, акунуцца ў яе.

*Летняя ночка купальная,*
*Лёгкай растаяла зьнічкаю,*
*Падаюць зоры сьвітальныя*
*Ў чыстыя воды крынічныя...*

Ачышчаныя й абноўленыя, бы толькі што народжаныя, вярнуліся да купальскага вогнішча. Там ўжо Сяржук Сокалаў-Воюш пачаў частаваць нас сваім крупнікам. А тым часам і Юры Кавальчук, які сёлета узяў на сябе клопат па падрыхтоўцы сушняку, вырабу купальскага кола й складаньню самаго вогнішча, як раз згатаваў наш традыцыйны гарачы крупнік з амаль трыццаці траваў на мёдзе й гарэлцы. Цяпер можна было падсілкавацца, каб працягваць сьпяваць ўжо пазаабрадавыя песьні пра каханьне.


Здымак В. Зайкі

Хочацца падзякаваць Алене і Юры Кавальчукам, якія ўзялі на сябе клопаты па практычнай арганізацыі сьвята, Віталю Зайку, які афіцыйна замовіў дазвол на правядзеньне сьвята ў запаведніку. Спадзяюся, што ўсе засталіся ўдзячнымі й мне за вырабленыя мною белыя строі, правядзеньне самаго абраду й тое, што была завадатаркаю ў сьпевах ды карагодах. Было вельмі прыемна, што ўсё прайшло ў згодзе й павазе адзін да аднаго. Таму вялікі дзякуй усім, хто быў з намі ў гэтую купальскую ноч.

**Валяньціна ЯКІМОВІЧ**

617.qxd 6/30/2017 10:57 PM Page 1 (1,1)



# Сустрэча ў Таронта




У Беларускім грамадзка-рэлігійным цэнтры Таронта 21 чэрвеня адбылася сустрэча з Маратам Клакоцкім, рэдактарам літаратурнага альманаху "Беларус".

Напачатку сустрэчы перад гасьцямі выступіў дзіцячы калектыў гурта "Яваровы людзі" пад кіраўніцтвам Віялеты Кавалёвай – хлопчыкі і дзяўчынкі сьпявалі беларускія народныя песні і дзіцячыя песьні сучасных беларускіх кампазытараў.

Падчас імпрэзы тарантаўцы задавалі рэдактару альманаху пытаньні пра гісторыю стварэньня і дзейнасьць альманаху, ягоны распаўсюд і фінансаваньне. Прысутныя даведаліся, што сёньня альманах "Беларус", які выдаецца раз на год з 2007 года, можна ўбачыць у найбуйнейшых бібліятэках сьвету: у Лёндане, Нью-Ёрку, Парыжы, а таксама ў бібліятэках Беларусі. Паводле словаў выступоўцы, альманах ня мае праблемаў з матэрыяламі: беларускія пісьменьнікі, якія жывуць за межамі Беларусі, актыўна супрацоўнічаюць і нярэдка яго фінансуюць. "Мы даем шанец кожнаму надрукавацца, гэта ня важна – ці ты толькі пачатковец, ці ўжо прафэсійны літаратар", – падкрэсьліў Марат Клакоцкі. Ён таксама адзначыў, што для беларускіх пісьменьнікаў замежжа альманах "Беларус" – часта ёсьць адзінаю магчымасьцю надрукавацца ў беларускамоўным выданьні. Менавіта тут, у альманаху, друкаваў большасьць сваіх твораў і леташні ляўрэат прэміі Ежы Гедройца Макс Шчур, адзін з самых цікавых і таленавітых сучасных беларускіх пісьменьнікаў.

Пасьля таго, як Марат Клакоцкі адказаў на пытаньні, прысутныя мелі магчымасьць паслухаць і галасы беларускіх літаратараў, якія жывуць у Таронта. Сталая аўтарка альманаху "Беларус" Ірына Варабей прачытала свой пераклад апавяданьня канадыйскай пісьменьніцы Э. Паўлін Джонсан-Тэкеянўакей. А яшчэ рэдактара альманаху чакаў сюрпрыз: пасьля гэтай сустрэчы кола аўтараў "Беларуса" пабольшала яшчэ на аднаго чалавека. Ім стаў тарантаўскі беларус Зьміцер Леановіч, ён упершыню выступіў перад аўдыторыяй са сваімі вершамі, і ягоны выступ быў вельмі цёпла ўспрыняты публікай.



*М. Клакоцкі*
*Здымак І. Варабей*

Пры канцы імпрэзы тарантаўскія беларусы атрымалі магчымасьць набыць асобнікі альманаху "Беларус" за ранейшыя гады, узяць аўтограф у рэдактара і падтрымаць альманах сваімі ахвяраваньнямі. Мы вельмі ўдзячныя Марату Клакоцкаму, які знайшоў магчымасьць завітаць у Таронта і сустрэцца са сваімі канадыйскімі чытачамі!

**К. ВІКТАРОВІЧ,**
**В. КАВАЛЁВА**

## Уплаты ў Згуртаваньне
## Ñêëàäê³ é  àõâÿðàâàíüí³:

- **В. Валынец** ................60
- **М. Валынец** ...............60
- **К. Зінавенка** ..............60
- **Д. Клепчукоў** .............60
- **Л. Кныш** ..................60
- **А Літвіненка** ..............60
- **А. Літвінка** ................60
- **Е. Навіцкая** ................60
- **Ю. Самуйлава** .............60
- **А. Сарадоеў** ...............60

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня "Пагоня"** *Viktar Yedzinovich.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "ПАГОНЯ"** адбудзецца ў суботу **8-га ліпеня 2017 г.** на Мангэтане па адрасу:
***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.

Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

*Паважаныя **М. Дзікун, Ю. і І. Валковіч, Ю. Шкода**, калі ласка, павядаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

## Ахвяравалі на выданьне бюлетэня ***Весткі й Паведамленьні***:

- **В. Валынец** ................30
- **М. Валынец** ...............30
- **Д. Клепчукоў** .............30
- **Л. Кныш** ..................30
- **Я. Курчэўская** .............30
- **А. Літвіненка** .............30
- **Е. Навіцкая** ...............30
- **Ю. Самуйлава** .............30
- **Д. Турсумбаеў** ............30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні" **Viktar Yedzinovich**.*
*Падпіску таксама можна аформіць на сайце **www.e-krama.com***